*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 17 (281)

24 красавіка 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ААН АБ'ЯВІЛА 1995—2005 ГАДЫ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ АДУКАЦЫІ Ў ГАЛІНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.** Гэтай надзвычай актуальнай праблеме быў прысвечаны «круглы стол», які правёў Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі. Яго тэма — правы чалавека на жыццё і бяспеку ў Беларусі.

○ ***КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ У МЭТАХ ЗАХАВАННЯ ГІСТАРЫЧНА СТВОРАНАГА ТЫПУ ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ*** *і яе матэрыяльнай базы забеспячэння далейшага развіцця культуры, адаптацыі яе да сучасных сацыяльна-эканамічных умоў прыняў пастанову аб дадатковых мерах па дзяржаўнай падтрымцы культуры.*

○ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПРЫНЯЎ УДЗЕЛ** у міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля: ацэнка вынікаў аварыі», якая прайшла ў Вене.

○ ***У РАМКАХ ПАГАДНЕННЯ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ КІНАДЭПАРТАМЕНТАМ САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА І МІНІСТЭРСТВАМ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ*** *ў горадзе на Няве прайшлі дні беларускага кіно. Візіт у адказ санкт-пецярбургскіх кінематаграфістаў са сваімі фільмамі адбудзецца ў красавіку наступнага года.*

○ **ПАРЛАМЕНЦКІ СХОД РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА РАЗМЕСЦІЦЦА Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ.**

○ ***ВЫСТУПАЮЧЫ Ў ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЕ РАСІІ, СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПРЫВЁЎ У СВАІМ ВЫСТУПЛЕННІ СЛОВЫ ФЁДАРА ДАСТАЕЎСКАГА:*** *«Чым больш мы будзем нацыянальныя, тым больш мы будзем еўрапейцамі». Разумна! Але ж як тады разумець закрыццё беларускамоўных класаў, школ і г.д.?*

○ **ВУЧОНЫЯ-ГЕАДЭЗІСТЫ ВЫЗНАЧЫЛІ ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР БЕЛАРУСІ.** Ён знаходзіцца за сем кіламетраў ад Мар'інай Горкі каля вёсак Бор і Антонава.

*Уражанні*

# Беларускі акцэнт у Смаленску

Нядаўна зноў давялося наведаць Смаленск. Там у мяне блізкія родзічы. Шлях, наваколле падрабязна знаёмыя, што дазваляе асабліва прыкмячаць новае. Звярнуў увагу і на такое. Раней, у эсэсэраўскі час, мае смаленскія родзічы, асабліва жанчыны, ахвотна і рэгулярна наязджалі ў Менск, каб купіць розны трыкатаж, а таксама паліто, абутак, нават дзіцячую, асабліва школьную вопратку. Я па наіўнасці дзівіўся: «Ды гэта ж усё ёсць і ў Смаленску! Давайце лепей зробім культурную экскурсію — у музей, у Мірскі замак ці ў Нясвіж, чымся гадзінамі будзеце млець у нашых вялізных магазінных чэргах». «Экскурсіі — выдатна, — адказвалі мне, — але ў вашых чэргах усё роўна давядзецца стаяць, бо хочам набыць у Менску патрэбныя прамтавары. Ты, напэўна, не заўважаеш, але па якасці і фасону яны лепшыя за смаленскія».

Паміж іншым, гэтак жа менскія модніки імкнуліся ў Прыбалтыку. Смаляне таксама, але не грэбуючы і Менскам. Цяпер па падобныя рэчы да нас з Расіі не ездзяць. Не таму, што ў Смаленску якасць мясцовых прамтавараў рэзка палепшылася, а па прычыне даволі прыкметнага ў параўнанні з Беларуссю развіцця рынкавых адносін: у магазінах з'явілася даволі многа якасных імпартных тавараў. Прычым, нягледзячы на высокія мытныя пошліны, па цане яны мала чым адрозніваюцца ад расійскіх. Адначасова апошнія, зразумела, менш раскупліваюцца і таму залежваюцца на складах, губляючы ўсялякі таварны выгляд. Па гэтай прычыне самыя элітарныя ў эсэсэраўскі час заводы, прадукцыя якіх, бывала, грузілася ў вагоны спажыўцу яшчэ цёпленькая, з канвеернай стужкі, цяпер працуюць па 2—3 дні ў тыдзень і такое яшчэ лічыцца някепскім варыянтам. Адпаведна мізэрны працоўныя маюць і заробак. Калі ж улічыць, што харчовыя прадукты тут у сярэднім сама менш у паўтара раза даражэйшыя за беларускія, чым, дарэчы, яшчэ карыстаюцца нашы «мяшэчнікі», ці па-сучаснаму — «чаўнакі». Сярэдняя пенсія тут зараз для шэраговых інжынераў — 200 тысяч расійскіх рублёў. У лепшым выпадку — 250 тысяч. Калі*я ехаў у Смаленск і абменьваў грошы, расійскі рубель у нас куплялі за 2,49 беларускага, а прадавалі за 2,7. Што атрымліваецца ў выніку, кожны можа вылічыць нават без калькулятара. Вайскоўцы ў адстаўцы і былыя супрацоўнікі КДБ у Расіі пенсіі атрымліваюць вышэйшыя за беларускіх калег. Гэта калегі даўно прыкмецілі, і таму многія з іх (а сярод аселых у Беларусі адстаўнікоў немалая колькасць — яшчэ ж і выхадцаў з Расіі) так актыўна зараз поруч з былымі райкомаўцамі і «чырвонымі дырэктарамі» ваююць за далучэнне Беларусі да Расійскай Федэрацыі. Частка смаленскіх дырэктараў у сваю чаргу марыць, што «аншлюс» дасць ім магчымасць збываць тавары сваіх прадпрыемстваў у Беларусь, прычым з

*(Заканчэнне на с.2.)*

## Падпалы сухастою — злачынства!

Пасля знікнення снегавога покрыва і ўсталявання цёплага надвор'я ў рэспубліцы пачынаецца паўсюднае выпальванне сухой расліннасці. Гэтая з'ява набыла настолькі шырокі ды й рэгулярны характар, што стала мацнейшым разбуральным фактарам, які ўздзейнічае на навакольнае асяроддзе. Сярод насельніцтва пануе памылковая думка, што выпальванне сухой расліннасці спрыяе яе лепшаму росту. Між тым, у выніку палаў адбываецца дэградацыя прыроды, знішчаецца расліннасць, збядняецца яе відавы склад, гінуць шматлікія віды жывёлаў, птушак і насякомых, перапыняюцца працэсы глебаўтварэння, пачынаецца эрозія, забруджваецца паветра. У шматлікіх выпадках менавіта палы з'яўляюцца прычынай пажараў у лясах і на тарфяніках.

Вельмі часта падпальваннем займаюцца падлеткі, але таксама і недасведчаныя дарослыя. Практычна ўся тэрыторыя рэспублікі пакрыта слядамі гэтай разбуральнай дзейнасці. Даходзіць ужо да недарэчнасці, калі траву выпальваюць на гарадскіх газонах, у скверах і парках. Агонь не мінае і тэрыторый, якія маюць асоба ахоўны статус.

Трэба ведаць, што палы на тэрыторыі рэспублікі забаронены і з'яўляюцца дзеяннем, што адміністрацыйна ды крымінальна караецца.

**Экалагічная станцыя «Ольса», Бабруйскі гарадскі савет Таварыства аховы прыроды.**

*Чарнобыльскі шлях-96*





## Фотавыстава

Напярэдадні дзесятай гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у Грамадскім прэс-цэнтры Дома друку адкрылася фотавыстава «Чарнобыльскі боль». Яна арганізавана Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку, БелТА і Грамадскім прэс-цэнтрам.

На выставе прадстаўлены здымкі фотакарэспандэнтаў БелТА, якія ўжо ў першыя дні пасля аварыі пабывалі ў 30-кіламетровай зоне. Здымкі адлюстроўваюць жыццё і настроі, гора людзей у самых пацярпелых раёнах — Брагінскім, Хойніцкім, Веткаўскім, Рэчыцкім. Гэты своеасаблівы фоталетапіс стварылі Уладзімір Шуба, Іван Юдаш, Аляксандр Талочка, Сяргей Халадзілін і Яўген Казюля. Выстава задумана як перасовачная і будзе яшчэ паказана ў Гомелі, Магілёве ды іншых гарадах.

На выставе «Чарнобыльскі боль» дэманстраваліся і гэтыя здымкі У.Шубы.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БелТА.**

## Вярбовічы сёння

На горкія разважанні наводзіць выгляд гэтай немаладой жанчыны — Варвары Фёдараўны Юрчанка. У калгасе «Кастрычнік» Нараўлянскага раёна пасля чарнобыльскай аварыі з пяцісот працуючых засталося каля сотні чалавек, ды і то многім з іх зараз ужо за шэсцьдзесят. Адзінае для іх выйсце — малітва за яшчэ ацалелых аднавяскоўцаў, балазе ў іх вёсцы Вярбовічы па-ранейшаму дзейнічае царква Св.Праскоўі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**



Жыццё Таварыства

# Што рабіць бацькам

***На пачатку наступнага школьнага года многія з нашых чытачоў даведаюцца: клас ці ўся школа, у якой вучацца іхнія дзеці, з беларускай мовы навучання пераведзеныя ў расійскую. Таму захады да захавання поўнага рэжыму школаў вы мусіце рабіць ужо сёння — гэта зробіць іх найбольш плённымі і дасць час на справу, займацца якой 1 верасня будзе ўжо позна.***

***Раім вам дзейнічаць наступным чынам:***

1. Яшчэ ў канцы гэтага навучальнага года ў школе, дзе вучацца вашыя дзеці, афіцыйна ці неафіцыйна можа быць абвешчана пра змену, пачаўшы з наступнага года, мовы выкладання.

У гэтым выпадку (альбо нават не чакаючы гэтага паведамлення) вам варта звярнуцца да дырэктара школы, каб атрымаць ад яго пісьмовую даведку аб планаванай змене мовы навучання.

Калі дырэктар навучальнай установы, у якой вучыцца ваша дзіця, адмовіў вам у навучанні дзіцяці на беларускай мове, то парадак вашых дзеянняў можа быць прыкладна такім:

2. Падрыхтаваць і правесці бацькоўскі сход класа, папярэдне перагаварыўшы з бацькаміаднадумцамі, высветліўшы іх пазіцыю, пераканаўшы іх падрыхтаванымі аргументамі. Поўную інфармацыю можна атрымаць у Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны (т. 33-25-11), Гарадскім бацькоўскім камітэце беларускамоўных класаў і Таварыстве беларускай школы (т.32-47-01).

3. Калі большасць бацькоў выкажацца на карысць расійскамоўнай адукацыі, то вы і тыя, хто застаўся непахісным, пішаце заявы на імя дырэктара школы і на сустрэчы з ім прапануеце пацвердзіць ягонае рашэнне ў пісьмовай форме.

4. Атрымаўшы пісьмовую адмову, вы з ёй кіруецеся да загадчыка аддзела адукацыі таго раёна, горада, на тэрыторыі якога знаходзіцца навучальная ўстанова, папярэдне дамовіўшыся аб прыёме і напісаўшы заяву на імя загадчыка РАА.

**Прыкладны ўзор заявы:**

Копія: у Камісію па адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета, у Міністэрства адукацыі і навукі, у рэдакцыі газет «ЛіМ», «Наша слова», «Народная газета», «Звязда», «Настаўніцкая газета», «Голас Радзімы» ды іншых.

Заява

Прашу забяспечыць навучанне майго сына (дачкі), вучня (вучаніцы) ... класа ... школы на беларускай мове.

Дата Подпіс

5. Калі аргументы і рашэнне загадчыка РАА вас не задавальняюць, дык вы, папрасіўшы пісьмова аформіць гэтае рашэнне, дасылаеце копіі сваёй заявы па адрасах і запісваецеся на прыём да загадчыка ГУА і, пры неабходнасці, да міністра адукацыі і навукі Стражава В.І.

6. Магутным аргументам у справе абароны сваіх правоў з'яўляецца выбар бацькоў, таму неабходна весці справу аб'яднання свядомых бацькоў вашай школы, суседніх школ, а таксама школ раёна.

Рупліўцы

# Годнае служэнне народу Беларусі

***Да 50-годдзя з дня нараджэння старшыні Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Заводскага раёна г.Менска Міколы Лавіцкага***

Наш час патрабуе ад асобы патрыятычнага пачуцця, шчырай стваральнай дзейнасці. Для Міколы Лавіцкага характэрна непадробная сыноўная любоў да Беларусі, яе мужнага народа, яго гісторыі, мовы, культуры.

Звыш 30-ці гадоў працуе на Менскім аўтамабільным заводзе Мікола Лавіцкі. Будучы творчай асобай ад прыроды, ён на ўсіх пасадах праводзіць актыўную дзейнасць па пашырэнні сферы ўжытку беларускай мовы ў калектыве. На пасадзе намесніка прафкама па культуры (да скарачэння!) разам з кіраўніцтвам Палаца культуры МАЗа эфектыўна дапамагаў гарадской Радзе ТБМ у арганізацыі і правядзенні культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў.

Ва ўмовах паўсямеснага расійскамоўнага панцыра нясе і стварае беларускамоўнае асяроддзе. Гэта ёсць мужны ўчынак і добры прыклад для акружаючых людзей.

Прафесійная і палітычная сталасць Міколы Лавіцкага дазволіла дэмакратычным плыням вылучыць яго кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі (выбары не адбыліся). Кандыдат у сваёй праграме выступаў «за нацыянальную ідэю, здольную аб'яднаць жыхароў краіны ў адзіны беларускі народ».

Верым, што і ягоныя сыны актыўна падтрымаюць свайго бацьку ў святой пачэснай справе: вярнуць беларускую мову ў беларускую сям'ю.

*Шаноўны Мікола, сардэчна віншуем Вас з юбілеем. Зычым моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту і поспехаў у служэнні Бацькаўшчыне.*

**Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны.**

*Супрацоўнікі і калегія рэдакцыі «Нашага слова» таксама сардэчна віншуюць шчырага рупліўцу беларускага Адраджэння і актыўнага аўтара газеты Міколу ЛАВІЦКАГА з першым юбілеем.*

# Атрымаўшы шанц вярнуцца ў гісторыю...

**Цікавыя карэспандэнцыі дасылаюць часам чытачы ў рэдакцыю. Адна з іх — водгук на наша мінулагодняе інтэрв'ю з Міхасём Басяковым («Я не мог напіцца сваёй роднай мовы», «Наша слова», № 37, 1995), сібірскім беларусам, які з маленства карыстаецца роднай мовай, а роднымі песнямі захапіўся настолькі, што, пераняўшы манеру іх выканання ад старэйшын свайго роду, стаў выдатным выканаўцам найдаўнейшых беларускіх балад, абрадавых і гістарычных песняў. Туга па радзіме прыгнала Міхася на Бацькаўшчыну, на якой ён жыве, як птушка, — без кала і двара. Лёс гэтага хлопца, думаецца, прымусіў нашага чытача інжынера Алеся Катлярніка, які адрэкамендаваўся «менчуком-беларусам, што зараз вучыцца размаўляць і думаць па-беларуску, пасапраўднаму глыбока задумацца над сучаснымі праблемамі жыцця, тымі клопатамі і «ідэаламі», якімі кіруюцца зараз нашы здэнацыяналізаваныя «браткі-беларусы». З дазволу спадара Катлярніка мы вырашылі абнародаваць некаторыя яго развагі, якімі ён дзеліцца з Басяковым, так сказаць, канфідэнцыяльна. Яны — сведчанне духоўнай эвалюцыі лепшых прадстаўнікоў нашага грамадства, якія ад «саўковай» і «каўбаснай» філасофіі пераходзяць на новы ўзровень асэнсавання і ацэнкі рэчаіснасці, каштоўнасцей чалавечага жыцця.**

*«Шаноўны суродзіч Міхась!*

*...Вядома, што з нас смяецца ўвесь свет, бо не маем ані добрых законаў, ані адпаведнага механізму іх выканання, ані патрыятычнага ўздыму нацыянальных сіл на абшарах згвалтаванай Бацькаўшчыны (О, наша кароткая памяць!). У нас няма сапраўднага клопату ні аб дзецях, ні аб экалогіі, ні аб здароўі — маральным і фізічным — нацыі. Усе нашы клопаты — адна мітусня. Ніколі не будзе дастатку і сапраўднага шчасця ў «каўбасна-шмоткавага» народа, які не паважае дзеянняў сваіх продкаў, адрокся ад славутых імён і спрадвечных назваў, забыўся на свае песні, казкі, танцы, гульні, звычаі, а ў побыце замест роднага слоўца ўжывае расійскі мат. Дарэчы, ці не адчуваеце вы, Міхась, неадпаведнасць таго дзікунства, што творыцца зараз на нашых вуліцах, нашай незапатрабаванай спадчыне? Яна, гэта спадчына, адсутнічае ў нашым штодзённым жыцці: у сем'ях, садках, школах, вышэйшых навучальных установах, у розных палацах мастацтва і культуры беларускага народа. Ці менавіта не таму духоўныя скарбы «тутэйшых» прамотваюцца махлярамі палітычнага і эканамічнага кшталту.*

*...Аб здароўі грамадства сведчыць яго філасофія, мараль і культура. Аб нашым з вамі здароўі сведчыць наш друк, тыя спосабы і метады, пры дапамозе якіх намі кіруюць сёння, адсутнасць ці наяўнасць у людзей нацыянальнай свядомасці, шанавання ці не шанавання імі нацыянальных багаццяў і святынь. Гледзячы на п'яныя морды ды «крутыя каркі», на запляваныя вуліцы ды смярдзючыя пад'езды, думаеш, што ў людзей, мабыць, за душой ужо нічога святога не засталося і што яны могуць, слухаючы кульгавае беларускае радыё ды тэлебачанне, чытаючы афіцыйныя газеты, другі раз распяць Хрыста.*

*Сёння ў нас усталёўваюцца два стандарты жыцця. Першы — «каўбасны»: думай толькі аб сабе і аб пракорме ўласнай сям'і, усё астатняе — «далямпачкі». Другі стандарт — «шмоткавы»: сядай у свой аўтамабіль, будуй свой катэдж, набывай, купляй, хапай пад крыкі «ура!» Ты — грамадзянін без аблічча, без перакананняў, без светлых ідэалаў. Сапраўдны прагрэс, якому спадарожнічаюць аптымальнасць і духоўнасць, з такой вось бязглуздай меркантыльнасцю не мае нічога агульнага. Памянёныя стандарты набліжаюць адных з нас да жывёл, а другіх — да «пупоў зямлі». У выніку мы маем тое, што маем: намі кіруюць непрафесіяналы, а прыход прафесіяналаў на месца прайдзісветаў і злодзеяў стрымліваецца локшынай на вушах «простых людзей», інакш кажучы ашуканых грамадзян. Праўда, калі, прыкладам, прафесіяналы з «Беларусского предпринимателя» заяўляюць, што бізнесу перашкаджае беларуская мова і хопіць нам аднае «Дайновы», то я чухаю сабе ў задуменні патыліцу...*

*Асноўная частка нашага грамадства займае пазіцыю пасіўнага чакання: маўляў, усё само сабою вырашыцца з міласці начальства, якое ладкуецца да заўтрашняга капіталізму, палюе на дэмакратаў і кляне ў сродках масавай інфармацыі віскулёўскіх «злачынцаў». Дык вось я і думаю, спадар Міхась, як сёння шараговаму грамадзяніну жыць, не губляючы ў сабе людскае і сваю нацыянальную годнасць? На маю думку, трэба пачынаць з чытання дэмакратычных выданняў («ЛіМ», «Свабода», «Наша Ніва», «Наша слова», «Беларуская маладзёжная», «Народная воля» ды іншыя); уступіць у партыю, якая адпавядае патрабаванням высокай маральнасці; удзельнічаць у мітынгах, сустракацца з аднадумцамі; вяртацца да культурных вытокаў свайго народа, — а гэта кнігі, спектаклі, выставы, рэлігія, паездкі ў Вільню, зносіны з беларусамі замежжа і г.д. Што да беларускай мовы, то я сам спрабую адраджаць яе ў сям'і, на рабоце, на вуліцы, у краме, у транспарце. Вельмі хачу, каб народ наш вярнуўся да роднай мовы, прыгадаў сваю гісторыю. Хачу, каб ліцвіны-беларусы, атрымаўшы шанц вярнуцца ў гісторыю, не ўліплі ў яе як паганыя мухі, а ўвайшлі з годнасцю. А ты як думаеш, Міхась Басякоў? Мяркую, нам будзе аб чым пагаварыць пры сустрэчы».*

***Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.***

Уражанні

# Беларускі акцэнт у Смаленску

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

гарантаванай аплатай, бо ў нас жа гаспадарчая структура ўсё яшчэ спрэс дзяржаўная, ці, як цяпер кажуць, прэзідэнцкая: «бацька» ўкажа — возьмуць усё і грошы расійцам аддадуць. Калі не «свае», то атрымаўшы ў банку беззваротныя крэдыты. Хто гэтыя грошы «намалюе» — пытанне асобнае, але настроі ў часткі смаленскіх дырэктараў пакуль такія. Дальнабачныя ж ставяцца да «аншлюсу» па меншай меры скептычна.

Што да смаленскіх беларусаў, то свядомая іх частка досыць балюча перажывае за наша таптанне-хістанне і халуйскія схільнасці вышэйшага кіраўніцтва, бо гэта прыніжае і асабісты імідж нашых суайчыннікаў у блізкім замежжы. А трэба зазначыць, што раней беларусаў у Смаленску цанілі досыць высока. Не за нейкую там цяпер ажно анекдатычную памяркоўнасць і талерантнасць, а за цвёрдасць характару, надзейнасць у партнёрстве, за ўмельства якасна рабіць сваю справу, у тым ліку і кіраваць прадпрыемствамі. Беларусаў у гэтым сэнсе ставілі ўпоравень з прыбалтамі. Таму шмат хто са смалян асабліва ганарыўся сваімі беларускімі каранямі. Тут знаходзіла добры попыт беларуская літаратура, газеты, хоць падпісацца на апошнія чамусьці каштавала дорага, а цяпер увогуле падпіска не прымалася.

Дарэчы, у Смаленску не дзіва пачуць у часе гаворкі людзей на вуліцах, у транспарце беларускі акцэнт, а то і нашы зусім не асіміляваныя слоўцы. Не кажучы пра базары, а і на самаробных шыльдачках невялікіх крам таксама сустракаеш такую лінгвістычную асаблівасць — аказваецца, трывушчая яна ўсё ж, беларушчына!

Даволі многія смаляне, як я ўжо адзначаў, перажываюць за нас, бы за блізкую радню.

— Ведаючы, што я шчыры беларус, — кажа інжынер Міхась Махнач, — знаёмыя часта прыязна абмяркоўвалі са мною пытанні беларуска-расійскіх дачыненняў. А вось калі 2 красавіка ў Маскве была падпісана не зусім зразумелая дамова прэзідэнтаў пра ССР, ніхто са знаёмых смалян ніяк не паспрабаваў нават заікнуцца пра гэта. Яны адно пры сустрэчы неяк сарамліва адводзілі ўбок вочы. Сам жа я крыху ачуняў, — працягваў спадар Махнач, — толькі тады, калі па расійскай тэлевізіі пабачыў моцныя дэманстрацыі менчукоў за беларускую незалежнасць. А ўвогуле, — зазначыў суразмоўца, — толькі незалежныя народы могуць па-сапраўднаму дружыць.

**Уладзіслаў АСІНАВЕЦ.**

# «Чорнаму кату» «не везет», а беларускім тэле-радыёспажыўцам?

Як і многія грамадзяне нашай Беларусі, не магу прыняць пазіцыю кіраўніцтва радыё і тэлебачання на абмежаванне ўжывання беларускай мовы ў перадачах. Гэта вядзе да страты нацыянальнага каларыту ў іх, што вельмі адчуваецца ў музычных праграмах. Нібы мала беларускіх твораў альбо мы ўжо вярнуліся ў СССР і слухаем трансляцыю Масквы па нашых сетках і каналах.

Разумею кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, якія на пытанні журналістаў адказваюць па-расійску, бо гэта іх прывычная паўсядзённая мова. Нават можна зразумець дзяржаўных дзеячаў, дэпутатаў ВС, якім лягчэй і прывычней выказвацца на гэтай мове, бо свая забылася. Вядома, большасць з іх ведае нашу мову, але без маўленчай практыкі карыстацца не можа, а пачаць — мужнасці пакуль не хапае. Цешым сябе надзеяй, што ў недалёкім будучым яны маюць магчымасць вярнуцца да роднага слова.

А вось радыё і тэлебачанне ўжо цяпер павінна ажыццяўляць палітыку падтрымкі і дапамогі беларускай мове, бо гэтыя структуры з'яўляюцца дзяржаўнымі і нацыянальнымі. Наша мова ў выніку шматгадовай русіфікацыі ў апошні час апынулася на мяжы выжывання. Яна патрабуе ад дзяржаўных органаў падтрымкі, як тое засыхаючае садовае дрэва, якое дбайны гаспадар ратуе клапатлівым палівам і доглядам. Дарэчы, гэтак я разумею і вынікі рэферэндуму.

Таму калі слухаем беларускія песні, дык душой ажываем, здаравеем, адраджаецца нацыянальная самасвядомасць. Дарэчы, на пачатку сакавіка надта ўсцешыла радыёперадача «Песня для вас». Дзякуючы ёй я пазнаёміўся з песнямі «Чараўніца», муз. М.Марозавай, сл. Н.Мацяш, выканала Т.Молчан; «Светлячок» муз. Дз.Даўгалёва, сл. У.Пецюкевіча; «Не сумуй, матуля» тых жа аўтараў, у выкананні С.Герасімава, у якой вобраз маці-жанчыны цудоўна пераплятаецца з вобразам маці-Радзімы; «Бацькоўская хата», муз. У.Будніка, словы У.Мазго, спяваў Л.Нікольскі. З іншых перадач запалі ў душу песні «Зорачка мая», «Любіў хлопец дзяўчынаньку», якія спяваў Я.Навуменка, «Далёка нам да Беларусі» ў выкананні А.Ярмоленкі, «Адзінокая дзяўчынка», «Незнаёмка» і некаторыя іншыя. Вельмі ўразіла, як у адной радыёперадачы слухачкі з Менска вельмі шчыра дзякавалі творцам беларускіх песень на расійскай мове. Але не здзіўляе, што некаторыя кампазітары ці спевакі адказваюць таксама па-расійску, бо «мне так лепш» (Іна Афанасьева), прывычна.

На жаль, беларускіх песень гучыць да крыўднага мала. А яны такія прыгожыя і так патрэбныя для духоўнага адраджэння грамадства. Можна зрабіць выснову, што не толькі «Чорнаму кату» (слухаў тройчы ўжо з пачатку года) «не везет», але не шанцуе і нам, беларусам, на патрыятычнае радыё і тэлебачанне. Нашы пачуцці добра выказваюць радкі з верша:

«Чую песні, а хочацца плакаць,
Чую смех, а таю нямы лямант...»
П.Глебка.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ.**
г.Ашмяны.

Актуальна

# РПЦ: Салодкі дзяржаўны палон ці шлях да дэмакратыі?

*Руская праваслаўная царква, да якой, дарэчы, належыць і мноства грамадзян Беларусі, пачынае адыгрываць у жыцці грамадства ўсё больш значную ролю. Яе іерархі з'яўляліся дэпутатамі парламентаў Расіі і Беларусі, а нядаўна патрыярх РПЦ сваім аўтарытэтам замацаваў падпісаныя паміж Беларуссю і Расіяй пагадненні аб інтэграцыі, такім чынам публічна заняўшыся палітыкай.*

*Але разам з тым у Расіі ўзмацняюцца спрэчкі ў асяроддзі вернікаў, якія належаць да розных плыняў праваслаўя, напрыклад, да Рускай праваслаўнай катакомбнай царквы.*

*Прапануем увазе чытачоў скарочаны тэкст адпаведнага інтэрв'ю «Радыё Свабоды» з расійскай пісьменніцай і праваслаўнай дзеячкай Зояй Крахмальнікавай, якая за савецкім часам адбывала вырак зняволення за свае рэлігійныя перакананні.*

**— Сёння ў Рускай праваслаўнай царкве ёсць тыя, якія імкнуцца захаваць яе ранейшы статус, і тыя, што хочуць наблізіць яе да грамадства, якое робіцца больш дэмакратычным. Гэтых людзей называюць раскольнікамі, ерэтыкамі, але мы бачым, як свет набліжае да сябе Царкву...**

— Дэмакратыя і хрысціянства блізкія, яны могуць стасавацца між сабою. Бо павага да асобы і тая свабода, якую дае чалавеку вера, маюць свае адлаведнікі ва ўсіх дэмакратычных канстытуцыях. А ў тым, што наша Царква не здолела ўтварыць саюза з дэмакратыяй, вінаваты доўгі палон таталітарызму, да якога яна прызвычаілася. Яна прызвычаілася да іншых стасункаў з дзяржавай: да рабства, да салодкага палону.

**— Менавіта гэта стала падставай расколу?**

— Руская праваслаўная царква была расколата яшчэ раней. Яна перажыла раскол XVII стагоддзя, які меў канечным вынікам, як думае шмат хто, рэвалюцыю 1917 года. Увогуле, раскол, як стан душы, уласцівы чалавечай натуры. Уласцівым ён аказаўся і рускай Царкве, таму што яна пачыналася са здрады паганскім багам — з гэтага на Русі пачалося хрысціянства. Таму паганская дваявернасць расійскага праваслаўнага люду, падвойская любоў — адданасць, з аднаго боку, дзяржаве, а з другога — Богу ды рэўнасць дзяржавы да Царквы адбіліся на гісторыі Царквы. Яшчэ раз, у XX стагоддзі, яна была расколатая Сталіным. Маскоўская патрыярхія, створаная ім у 1943 годзе, была ягонай Царквою, якая мела яго праслаўляць. Так у выніку расколу, здзейсненага Сталіным і Сергіем, паўстала раскольная царква, якая адышла ад царквы пакутнай — катакомбнай. І мноства ахвяр паказала, што такое сапраўднае праваслаўе. Нягледзячы на тое, што яшчэ Дастаеўскі лічыў царкву паралізаванай, яна дала цэлы збор пакутнікаў. Пакутнік Іосіф Петравых казаў: «Не мы расколваем Царкву — вы ад нас адколваецёся» ў бок сергіянскай царквы.

Сёння раскол ахапіў усё — нават замежныя, эміграцкія цэрквы. Я пра гэта даведалася пад час допытаў у КДБ, калі мяне судзілі за актыўную дзейнасць, за любоў да царквы. Дык вось, на допытах следчы папікаў мне здрадай Царквы сваім пакутнікам словамі патрыярха Пімена аб тым, што ўціску Царквы ў СССР не было — гэта прыдумана на Захадзе...

**— Як ставіцеся Вы да таго, што цэрквы наведваюць учарашнія і сённяшнія камуністы, і як да гэтага ставіцца Царква?**

— Гэта можа прывесці да новага расколу. Бо ёсць людзі, якія не жадаюць прыходу камуністаў. Пераважна гэта маладыя святары.

Калі на пасад патрыярха ўзышоў Алексій II, ён прывёў з сабою маладых, жадаючы абнавіць Царкву. Але нечакана для яго гэтыя маладыя святары ўтварылі сапраўдную духоўную апазіцыю. Пакуль яны падпарадкоўваюцца, бо ён іх трымае ў рабскім становішчы, а яны баяцца, што ў іх адбяруць храмы. Але я бачу тут парушэнне дэмакратычных нормаў Канстытуцыі. Бо святыні належаць парафіям, гэтак жа сама, як царкоўная маёмасць належыць усяму народу. Ужо з тае прычыны, што створана яна рукамі нашых продкаў, а не Маскоўскім патрыярхатам.

**— Патрыярх хрысціў мэра Масквы Лужкова...**

— Так, гэта беспрэцэдэнтны выпадак, хаця мы, здаецца, ужо да ўсяго прызвычаіліся. Тое, што яны ў добрых стасунках, нармальна, але як гэта адбылося? Лужкоў расказваў сам, што патрыярх, калі мэр у яго гасцяваў, спытаў, ці хрышчаны той? Даведаўшыся, што не, патрыярх адвёў яго ў хрысцільню і сам выканаў абрад. Лужкоў піша, што ганарыўся гэтым, але чым — хрышчэннем ці тым, што яго здзейсніў патрыярх? У інтэрв'ю адной з расійскіх газет Лужкоў прызнаўся, што ён атэіст, але праваслаўная абраднасць яму падабаецца. Але ж часткаю таямніцы хросту ёсць пацвярджэнне чалавекам ягонай веры і прызнанне Хрыста, інакш таямніца нядзейсная. Раней за падобныя рэчы святароў пазбаўлялі сану.

**— Чаму ідзе змаганне за Царкву, што хочуць ад яе дэмакраты і камуністы?**

— За Царкву ідзе ідэалагічная барацьба, і верх у ёй маюць, хутчэй, камуністы. Сярод дэмакратаў, калі лічыць Ельцына дэмакратам, самыя блізкія да Царквы — ён сам і ягонае асяроддзе. Але для яго гэта — набліжэнне Царквы да валадара: перад выбарамі ён даў патрыярху палаты ў Крамлі, узнагародзіў яго ордэнам «Дружбы народаў»...

Але найбольш зацікаўленыя Царквою камуністы. Чаму? Бо яны страцілі ідэалогію, якая для іх была сапраўднай рэлігіяй. Яшчэ Бярдзяеў заўважыў, што партыя будавалася на ўзор царквы; саборы — гэта з'езды, палітбюро — гэта сінод, нават рэшткам святых (мошчам) знайшоўся адлаведнік — маўзалей Леніна.

**— Што звязвае Рускую праваслаўную царкву і расійскіх нацыяналістаў і ці ўзаемная гэтая сувязь?**

— У Расіі гэта вельмі балеснае пытанне. Царква расколата, і ёсць прыхаджане і святары, якія прапагандуюць сапраўдны праваслаўны нацызм. Пачуццё ўціснутай нацыянальнай годнасці, спалучанае са слабай рэлігійнай адукаванасцю, дае ім перакананасць у тым, што праваслаўе — племянная рэлігія расійцаў. Яны забываюць пра тое, што гэта — універсальная рэлігія, што ёсць праваслаўныя японцы і чукчы. Ім важна мець нацыянальную рэлігію. І ўжо Баркашоў выдумляе сабе сімвал, падобны на фашысцкі, які называе «звезда Богородицы».

**— З пэўнага часу вялікамучаніца Варвара абвешчана апякункай расійскіх ракетных войскаў...**

— Патрыярх і сапраўды прапанаваў называць яе апякункай ракетных войскаў далёкага засягу. Пэўна, ён лічыць, што пакутніца будзе дапамагаць боегалоўкам трапна знаходзіць цэлі. Я згадваю і міністра абароны Расіі Грачова, які дзякаваў патрыярху за дапамогу «адмазацца» ад тых, хто не ўхваляе дзеянняў Грачова ў Чачні, і за дапамогу ваяваць там расійскім салдатам, падтрымаўшы іх сваімі пасланнямі.

З аднаго боку — запавет «не забі», з другога — заявы пра тое, што вайна — гэта блага, з трэцяга — пасланні з заклікамі ваяваць, каб выканаць салдацкі абавязак...

**— Сёння адны прыхаджане заклікаюць Царкву да пакаяння, другія лічаць, што каяцца няма ў чым...**

— Царква пакаяцца не можа. Але яна мусіць заклікаць да таго ўсіх, і ў першую чаргу тых сваіх іерархаў, якія (на гэта ёсць дакументальныя пацвярджэнні) былі агентамі КДБ. Яны мусяць прасіць у вернікаў прабачэння, а калі не атрымаюць яго, сысці, як зрабіў гэта румынскі праваслаўны патрыярх.

Навучыць грамадства пакаянню Царква можа, абапіраючыся на ўласны прыклад. Але гэта не адбываецца, бо яна замест навучання людзей словам Хрыста ператварылася ў абрадавую ўстанову ў часы, калі ўлады дазвалялі толькі культ. А цяпер Царква не дае людзям новых ведаў, не вучыць праўдзівай веры, не стрымлівае іх на дарозе да граху.

Сумна бачыць спрэчкі вернікаў, але існуюць два праваслаўі. Адно — правая вера, і другое, у якім іерархі закрываюць вочы на грахі сваіх паплечнікаў. Патрыярх Алексій II ведае аб тым, што ёсць цэрквы, дзе распаўсюджваюцца малітвы са словамі ненавісці да габрэяў. Ён ведае пра брацтвы, дзе ствараюцца антыдэмакратычныя, прабальшавіцкія дакументы. Ён ведае, што Зюганаў заяўляе, быццам мае Бога ў душы, і заклікае да збліжэння з Царквою.

Чаму ніхто з іерархаў не скажа адкрыта, якое зло бальшавізм, хаця сказана — пакрывайце! Абавязак хрысціяніна — змагацца са злом, а калі ён яго хавае, — гэта ўжо іншае праваслаўе, гэта рэлігійная структура (так яе называе Алексій II), якая выконвае рытуалы, але не дае ні любові, ні веры, бо яе не маюць пастыры, якія не хочуць казаць праўды аб людзях, якія не толькі знішчалі Царкву, але залілі крывёю ўсю краіну.

*Virtus atque doctrina*

# Волат

*(Да 75-годдзя Міколы Ермаловіча)*

Ён відзён здалёк, гэты магутны дуб. На ўскрайку лесу па-над маладым хвойнікам, халодным ельнікам, дрыготкім асіннікам, гнілым алешнікам узнімаюцца ягоныя галіны, сягаючы высока ў неба, вершалінай разганяючы хмары...

Хмары, цемры, невуцтва, беспамяцтва, абыякавасці, ляноты...

Нядаўна бачыў яго ў калоне сярод моладзі, што йшла менскімі вуліцамі. Не зважаючы на лужыны і лёд, Мікола Ермаловіч бадзёра крочыў разам з усімі, малады сярод маладых...

Вось так бадзёра, з радасцю крочыць ён, не зважаючы на няроўную дарогу, на лёд пад нагамі, на халодную сцяну замоўчвання і варожасці, пераплёты чорнай зайздрасці. Крочыць сваім шляхам.

Ён даўно абраў яго і не збочвае ні на шырокі гасцінец афіцыйнай навукі, ні на вузкую сцежку адасобленасці, ні на пакручастую лясную дарогу, герметызму ды міфатворчасці. Колькі гадоў — больш чвэрці веку — ягоная дарога была простай, прамой: з Маладзечна — у Менск, амаль штодня — у менскія бібліятэкі, да кніг, летапісаў.

Мне здаецца, ніхто і не спрабаваў пераманіць Міколу Іванавіча на шырокі ды выгадны гасцінец афіцыйнай навукі, бо адразу ж, відаць, адчувалі, што яго не спакусіць магчымасцю жыць лягчэй і сыцей, хаця нябесная манна ў сям'ю Ермаловічаў не спадала. Вось толькі — Бог паслаў Міколу Іванавічу верную спадарожніцу і сябра — памяці жонкі Лідзіі Цімафееўны прысвеціць Мікола Ермаловіч галоўную кнігу свайго жыцця.

Мікола Іванавіч ішоў першым, яму трэба было церабіць тую дрымучую пушчу гісторыі, якую даглядалі і аберагалі некалькі пакаленняў расійскіх, польскіх ды летувіскіх гісторыкаў. (Гэта ж, відаць, можна сказаць пра ўсіх еўрапейскіх гісторыкаў, бо, калі не памыляюся, ніхто не здагадаўся запытацца: «А дзе ж была тая літва*?», хоць тая літва на розных картах рознымі навукоўцамі пасялялася ў розных месцах.) Мікола Ермаловіч узяўся дазнацца, як гэта здарылася, што гісторыя нашага народа была перапрабленая, фальсіфікаваная. Ён звярнуўся да летапісаў — з міфам пра так званую заваёву беларускіх земляў так званымі літоўскімі князямі трэба было змагацца толькі неабвержнымі фактамі. Гісторык знайшоў іх не толькі ў старажытных летапісах ды хроніках, але і на беларускіх абшарах, збіраючы і аналізуючы назвы рэк, паселішчаў, сама перш тых, што называліся літва.

Паступова даследнік давёў, што старажытная, так званая гістарычная літва знаходзілася на беларускіх абшарах, на Верхнім Панямонні, на тэрыторыі Слонімскага, Баранавіцкага, Ляхавіцкага, Стаўбцоўскага, Уздзенскага ды Маладзечанскага раёнаў. Гэтае сцвярджэнне было падмацавана таксама дакладным, аналітычным даследаваннем шматлікіх гістарычных крыніц.

На пачатку 70-х гадоў быў падрыхтаваны да друку рукапіс будучай кнігі — «Па слядах аднаго міфа»: даследнік пераканаўча даказаў, што заваявання беларускіх княстваў літвою не было. Больш таго, Ермаловіч прааналізаваў летапісныя звесткі пра «набегі» літвы і прыйшоў да высновы, што літва выкарыстоўвалася беларускімі княствамі менавіта для барацьбы з суседзямі. І першым зрабіў гэта Навагрудак, а дакладней, утвораная ў XIII стагоддзі магутная беларуская дзяржава, якую летапісец назваў: «Новогородская держава, над Немном лежачае».

Можна толькі ўявіць, як было ўспрынятае такое меркаванне афіцыйнымі гісторыкамі і тагачаснымі ідэолагамі. Ды кніга «Па слядах аднаго міфа» распаўсюджвалася ў самвыдаце. А Мікола Іванавіч працягваў даследаванні, друкуючы час ад часу ў газетах (пераважна ў «Голасе Радзімы») і часопісах асобныя артыкулы па некаторых пытаннях нашай гісторыі.

У 1975 годзе выдавецтва «Навука» выдала ў серыі «Полное собрание русских летописей» тры беларускія хронікі і тры летапісы (том 32), а праз пяць гадоў — «Летописи белорусско-литовские» (том 35), якія ўкладаў і рэдагаваў доктар гістарычных навук Мікалай Улашчык. Даследнік з Маладзечна адгукнуўся кароткай рэцэнзіяй «Раскрытые свидетельства истории» ў часопісе «Нёман». На трох часопісных старонках Мікола Іванавіч здолеў выкласці свае погляды на ролю Навагарадка ва ўтварэнні ВКЛ. Ён на канкрэтных прыкладах паказаў, як і чаму з'явіліся ў летапісах жамойцкія князі, чаму шмат якія з летапісаў замоўчвалі Міндоўга, князя літвы, пазней і навагарадскага князя. Ды ўсё ж, — адзначаў даследнік, — «нягледзячы на яўную тэндэнцыйнасць, летапісы выразна паказваюць, што першай сталіцай ВКЛ быў Навагарадак, старажытны герб катарага — вершнік з мячом у руцэ над галавой — стаў гербам гэтай дзяржавы».У гэтай жа рэцэнзіі Мікола Ермаловіч піша і пра Вільню, якая «ўзнікла... як цэнтр крывіцкай каланізацыі». Даследнік выявіў сваю эрудыцыю, веданне летапісаў і падаў асноўныя тэзісы сваёй канцэпцыі нашай гісторыі. Цалкам выклаў яе Мікола Іванавіч амаль праз дзесяць гадоў у кнізе «Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяды», якая выйшла ў 1990 годзе. У прадмове доктара гістарычных навук Міхася Ткачова чытаем такую ацэнку: «Перакрыжаваны аналіз рускіх, беларуска-літоўскіх летапісаў, тацішчаўскіх звестак, нямецкіх і польскіх хронік дазволіў аўтару грунтоўна прасачыць гісторыю Полацкай і іншых земляў і адкінуць пустую мякіну, выказаць трапныя і слушныя меркаванні, здагадкі, заўвагі. Магчыма, не з усімі вывадамі і назіраннямі М.Ермаловіча можна будзе пагадзіцца. Публікацыя, мабыць, выкліча спрэчкі, а можа, нават і дыскусію, чаго, дарэчы, нашай гістарычнай навуцы акурат і не стае».

На жаль, прадбачанага не адбылося. Акадэмічная навука не пажадала вырачыся поглядаў, якія былі прышчэпленыя ім прагнымі да нашай зямлі суседзямі. Дзеля дыскусіі неабходныя веды, а не ў кожнага хопіць вытрымкі хаця б пагартаць тыя сотні «першакрыніц», якія дасканала вывучыў і прааналізаваў Мікола Ермаловіч, пра што сведчаць 917 зносак згаданай «Старажытнай Беларусі». Але і гэта не мяжа эрудыцыі і дасведчанасці Міколы Іванавіча. Нядаўна мы змаглі пазнаёміцца з вынікамі далейшага даследавання Міколы Ермаловіча — «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» (1994 г.), дзе разглядаюцца новыя крыніцы, новыя дакументы, што абгрунтоўваюць ранейшае ягонае меркаванне пра Вільню — крывіцкі горад, пра славянскі характар Вялікага Княства Літоўскага.

Калі тым вясновым днём глядзеў на Міколу Ермаловіча, бадзёрага і ўзнёслага, маладога сярод моладзі, то спачатку спалохаўся, ведаючы пра яго вельмі дрэнны зрок. Але, відаць, гэтага Чалавека вёў анёл, пасланы яму з Неба. Хай жа не пакідае Ён нашага рупліўца, хай апякуецца ім яшчэ дзесяткі гадоў дзеля карысці Бацькаўшчыны, дзеля адраджэння нашага народа.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*Слова літва падаецца з малой літары таму, што азначае не дзяржаву, а ваяроў (спецыяльнае прафесійнае войска).

ВУЧЫМСЯ

*Практычная стылістыка*

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# ТАКАЯ І ГАВОРКА

*(Заканчэнне.)*

*...Даражыць пявучым гукам кожным...*
**Генадзь Бураўкін.**

*Мову трэба адчуваць навобмацак, на смак і на гук, тады яна дазволіць паказаць рэчы ў патрэбных вымярэннях. У адваротным выпадку слова пойдзе супраць цябе...*
**Максім Лужанін.**

Творчае стаўленне да сваёй дзейнасці, у тым ліку і да маўлення, дазваляе паўней раскрыцца асобе, рэалізаваць сябе ў суладдзі інтэлекту, духоўнасці, псіхічных праяў і мастацка-эстэтычных схільнасцей. Арыгінальнасць, натуральнасць выказвання залежыць ад умення знайсці яму ўдалую-ёмістую зместам, гнуткую ў перадачы пачуццяў і эмоцый — моўную форму. Усведамленне культурна-эстэтычнай адзначанасці мовы, спасціжэнне яе гукавой стылістычнай прадвызначанасці зместу называюць духам мовы, арганічнай патрэбай асобы. Разуменне моўнай заканамернасці азначаюць як моўнае чуццё. Гэтае эстэтычнае адчуванне тоеснае музычнаму слыху, мае ў сваёй аснове законы гармоніі. Моўнае, як і музычнае, чуццё можна і неабходна развіваць — праз знаёмства з узорнымі творамі, асэнсаванне вытокаў іх гармоніі. Моўнаму чуццю шкодзіць слабое валоданне мовай, чым выкліканы такія стылістычныя хібы, як аднастайнасць — у пабудове сказаў, у выбары сінтаксічных канструкцый і слоў. Такая стылістычная памылка часта правакуе другую — сухасць мовы (беззмацыйнасць, адсутнасць неабходных па зместу і сітуацыі характаралагічных сродкаў). Прыкладам можа служыць наступны расповяд: «Мы пайшлі ў лес. Мы забраліся ў гушчар. Там мы пабачылі вавёрку. Яна сядзела на дрэве...» Сінтаксічная аднатыпнасць спалучана з таўталогіяй займеннікаў, ніводзін сродак не перадае ўражанняў і пачуццяў, адсутнічаюць ацэначныя словы, прыметнікі, прыслоўі, якія надаюць апісанню маляўнічасць і выразнасць: «Мы пайшлі ў лес, забраліся ў самы гушчар і там неспадзявана прыкмецілі вавёрку. Маленькі гарэзны звярок здатна ўладкаваўся на дрэве...» Разам з тым неабходна адчуваць меру, бо сухасць (пры росшуках маляўнічасці) можа ператварыцца ў сваю крайнасць, процілегласць, што таксама з'яўляецца стылістычнай памылкай, якая называецца кваціcтасцю. Гэта хіба — вынік безгустоўнасці, пагоні за ўпрыгожаннем фразы. Утварэнне надуманых, неадпаведных законам моўнага выяўлення і эстэтыкі характарыстык, празмернасць такіх сродкаў вызначаюць наступнае выказванне: «На старэчай назе сівога дрэва рудой плямінай ляпілася маляўнічая вавёрка». Гэта фраза ўключае словы з супярэчнай эмацыйнай ацэначнасцю (**ляпілася плямінай — маляўнічая**), прыблізныя і штучныя вобразы (**старэчая нага сівога дрэва**). Насычаная дэталізацыя змешвае, ураўнівае галоўныя і другасныя элементы апісання, абцяжарваючы і ўскладняючы яго ўспрыняцце і разуменне.

Жаданне выказацца эмацыйна прыводзіць да недарэчнасцей, як у радках з абітурыенцкага сачынення: «На Пятра Шапятовіча напала страшэнная думка». У такім ужыванні словы **напасці** і **страшэнны** ўспрымаюцца ў прамым значэнні, скіроўваюць наша ўяўленне на ўзровень фізічнага сутыкнення асобы з навакольнай рэчаіснасцю, а не на вонкавыя інтэлектуальна-эмацыйныя праявы чалавека ў экстрэмальных абставінах, што мелася на мэце. У такім выпадку выйсце адно: выказацца натуральна, значыць прасцей: Пятра Шапятовіча ахапіла трывога; Пётр Шапятовіч непакоіўся пра...; Пятра Шапятовіча мучыла трывожная неадчэпная думка і інш.

Ян Скрыган акрэслівае кваціcтасць як «лішноты ў хараcтве», «бліскучыя слоўныя выверты», «штучнае літаратурнае хараство». Другі выдатны беларускі пісьменнік Янка Брыль нагадвае, разважаючы пра стыль, неаспрэчную ісціну, вечны крытэрый узорнай мовы: «Калі ёсць, што сказаць, калі хочаш, каб цябе зразумела, каб табе паверыла як мага больш людзей, — мудрагеліць не будзеш».

Гукавая афармленасць мовы вызначае і такое патрабаванне да выказвання, як мілагучнасць. Такая якасць уласціва мове генетычна, увасоблена ў формы, адпаведныя ўяўленню народа пра дасканаласць, прыгажосць, мастацтва. Максім Лужанін справядліва сцвярджаў: «Мы не маем права не звяртаць увагі на гучанне слова, бо мова апрача дакладнасці патрабуе яшчэ і мілагучнасці». Псіхалагічнае ўспрыняцце беларускай мовы тоеснае назіранням даследнікаў пра яе плаўнасць, павольнасць, размеранасць, ненапружанасць, нязмушанасць гучання, яго свабоду, мяккасць і шырыню. «Душа нашай мовы — мяккая, спеўная, мілагучная, як сама душа народа», — паэтычна і ўнікліва, — з вышыні свайго вопыту творцы, педагога, мовазнаўцы, моўнага рупліўца, а найперш носьбіта мовы, — гаворыць Васіль Вітка.

Такую спеўнасць, гарманічнасць спалучэння гукаў у моўнай плыні важна захоўваць і ўлічваць у маўленні — як у вуснай, так і ў пісьмовай яго форме. Няўважлівасць да гукавой арганізацыі выказвання прыводзіць да стылістычнай памылкі — немілагучнасці. Яна ўзнікае пры неспадзяваным збегу аднолькавых гукаў, іх паўтарэнні. Напрыклад, у словазлучэнні **з мэтай экспрэсіі і іроніі** немілагучнасць ствараецца ў сутыкненні 6-ці гукаў [і]: 4 — у сярэдзіне фразы, 2 — у яе канцы. Тая ж стылёвая памылка ў сказе **Я чытаў пра простых прыгонных прыніжаных людзей** — празметадычны паўтор у пачатку чатырох слоў спалучэння гукаў [пр] не прадугледжаны размоўцам як пэўны гукавы эфект. Каб пазбегнуць немілагучнасці, неабходна ўважліва сачыць за гукавой формай, улічваючы, што ў моўнай плыні аб'ядноўваюцца канцавыя і пачатковыя гукі сумежных слоў, умець змяніць структуру выказвання, пры неабходнасці выкарыстоўваючы іншую граматычную форму слова, яго сінонім ці займеннік. Прыведзеныя вышэй фразы можна выправіць так: **іронія ды экспрэсія — асноўная мэта...**; **я чытаў пра занядбаных лёсам, прыніжаных гаспадарамі прыгонных людзей**.

Васіль Вітка ў арыгінальнай кнізе-слоўніку «Дом, дзе жывуць словы» называе натуральны, дзейсны сродак развіцця моўнага слыху: «Нішто гэтак, як форма верша, яго рытм, сугучча слоў, не спрыяе дабратворнаму ўплыву на выхаванне чуйнасці да мовы, да правільнага вымаўлення». Беларускія пісьменнікі, спасцігаючы таямніцу моўнай прывабнасці і хараства, абавязкова зважаюць на гучанне, што ўвасоблена ў шматлікіх эпітэтах — **звонкая, гладкая, іскрыстая, крыштальная, ласкавая, магічная, магутная, мілагучная, пластычная, плаўная, пявучая, сакавітая, сакаўная, самабытная, таямнічая, трапяткая, родная, цёплая**... Прадоўжыць гэтыя азначэнні зможаце вы, калі ўслухаецеся і пачуеце МОВУ; зразумееце тонкае назіранне Васіля Віткі: «Гучанне слова — гэта яго жыццё, яго дыханне». Памятаючы пра гэта, стварайце свой стыль — як адкрыццё сябе, адкрыццё свету, адкрыццё мовы. Такі шлях некалі прайшоў паэт Анатоль Канапелька:

Адкрываю,
як свет,
нанова
Беларускае
роднае слова,
пералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй,
цёплае —
як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае — як маланка,
гнеўнае — як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае —
як Беларусь.

Культура мовы

*Алесь КАЎРУС*

# Шануйма сваё імя і род

У газетных і часопісных публікацыях, прысвечаных культуры мовы, закранаецца галоўным чынам лексіка. Аднак такому яе спецыфічнаму пласту, як уласныя назоўнікі, у прыватнасці імёны і прозвішчы, зусім мала аддаецца ўвагі. А між тым у адносінах да прозвішчаў — іх напісання, вымаўлення — часта назіраецца самачыннасць з боку іх носьбітаў і рэгістратараў (у загсах, пашпартных сталах) і проста моўная недасведчанасць. У выніку прозвішча набывае форму, якую цяжка ўзгадніць з законамі беларускай мовы. Напрыклад: Белаокая, Белаусаў, Ляошка, Углік, Ліопа, Цыуля, Крупеніо (мабыць, з *Крупеня*), Сухій (ад прыметніка *сухі*), Кяшко.

Апошняе слова, відавочна, «акультураны» варыянт прозвішча Кешка, якое лёгка, нязмушана рэалізуецца ў беларускім літаратурным вымаўленні. Прыгадалася, што ў 70-я гг. малады літаратуразнаўца пісаў сваё прозвішча Кенько, потым — у натуральнай форме Кенька. Такі шлях вяртання да беларускай мовы прайшлі — раней ці пазней — прозвішчы іншых пісьменнікаў, навукоўцаў і журналістаў: Клышка, Свірка, Тычка, Каўка, Кукса, Сіцька.

І ўсё ж яшчэ многія носьбіты прозвішчаў, якія паходзяць ад агульных назоўнікаў *(зайка, капуста, качарга, лялька, пчолка* і інш.), ужываюць іх з канчаткам *-о:* Зайко, Капусто, Качарго, Лялько, Пчалко і інш. У такім разе прозвішчы перастаюць скланяцца. Для афіцыйна-справавога ўжытку гэта мо і зручна: няма патрэбы (цяжкасці) вызначаць, як правільна ставіць прозвішча ў тым ці іншым склоне — у розных кантэкстах форма ўласнага назоўніка аднолькавая. Напрыклад: заява Уладзіміра **Галаўко**, выдаць Уладзіміру **Галаўко**, прапанавана Уладзімірам **Галаўко**. З другога боку, гэта, можна сказаць, нібы гвалт над мовай: уласна беларускія словы пераводзяцца ў разрад запазычаных, нескланяльных *(Гюго, Русо)*.

Зразумела, у кароткім допісу нельга акрэсліць кола тых праблем, якія паўстаюць пры ўжыванні прозвішчаў. Спынімся на адным пытанні-скланенні прозвішчаў тыпу Крывец, Малец.

Удзельнікі абмеркавання літаратурнай тэмы («Звязда», 19.03.96) звяртаюцца да публікацыі аднаго аўтара, але прозвішча ягонае ў родным склоне ўжываюць неаднолькава. Калі журналіст А.Карлюкевіч піша: «артыкул Януся **Малеца**», то паэт А.Вярцінскі — «версія Януся **Мальца**».

Якая форма прозвішча правільная ці, прынамсі, якой з іх аддаваць перавагу?

У беларускай мове назоўнікі мужчынскага роду з суфіксам *-ец-(-эц-)* тыпу *кравец, сівец, хлопец* пры скланенні страчваюць суфіксальны галосны: кравец — краўца, сівец — сіўцу, хлопец — хлопца. Гэтая заканамернасць захоўваецца і ў назоўніках, якія сталі прозвішчамі і мянушкамі: Гулец — Гульца, Зубец — Зубца, Кляпец — Кляпца, Сівец — Сіўца. Можна прывесці і больш вядомыя прыклады — прозвішчы беларускіх пісьменнікаў: Дубавец, Крывец, Кудравец, Мыслівец, Рунец, Шахавец. У такіх уласных назоўніках галосны *-е-* выпадае ва ўсіх ускосных склонах.

Не павінна складаць выключэння і прозвішча Малец, утворанае ад агульнага назоўніка *малец* (хлопец), які ў родным склоне мае форму *мальца* (гл. слоўнікі І.Насовіча, І.Бялькевіча). Варта напомніць хрэстаматыйнае: у аповесці Я.Брыля «Сірочы хлеб» прозвішча галоўнага героя ўжываецца ў формах Малец, Мальца, Мальцу.

Вельмі кідаецца ў вочы (і рэжа вуха) разнабой пры ўжыванні прозвішча паэта Віктара Ярца (Яраца). Думаю, ён сам павінен вызначыцца. Мною ж, ягоным чытачом і слухачом, як натуральныя ўспрымаюцца формы Ярца, Ярцу, Ярцам (а не: Яраца, Ярацу, Ярацам). Яны арганічна ўпісваюцца ў сістэму словазмянення згаданых вышэй беларускіх прозвішчаў.

Паказальны і такі факт. Васіль Ткачоў, адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, чалавек, які нават паводле абавязкаў службы блізка знаёмы з В.Ярцам, піша: «З публіцыстычных твораў запамінаецца артыкул Віктара **Ярца**» («ЛіМ», 20.01.95).

Сапраўды, праблема ўжывання прозвішчаў існуе. У сваім допісе я хацеў звярнуць увагу чытачоў «Нашага слова» на яе актуальнасць.

*Мікалай КРЫЎКО*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПÓДМАЗКА** (кавалачак сала, здору і пад., якім падмазваюць патэльню, калі пякуць бліны) *Трэ па гарачай скаварадзе подмазкай, ад чаго скаварада шыпіць і ад яе ідзе пахучы сіняваты дымок, зноў кідае на скавародку палонік цеста і ставіць у печ* (Крапіва), **ПÓДМАЗ** *Не магу ступіць ні кроку. Раптам чую: «Нэлі!» То хлапцы непадалёку Нібы подмаз з'елі* (Тулупава), **ПАДМÁЗКА** *Блінец быў халодны, ранішні, але Міця, мусіць, не да такіх прывык у час валацужніцтва. Нават і падмазку з'еў, што трапілася з блінцом* (Арочка).

**ПÓДСКАКАМ** (робячы падскок на хаду, на бягу) *Дзяўчынка не стала чакаць, пакуль адыдзе аўтобус — пабегла подскакам, на адной назе, далей* (Сачанка), **ПАДСКÓКАМ** *Хадзіў ён [Панасюк] неяк падскокам, смяяўся звонка і залівіста* (Навуменка), **З ПАДСКÓКАМ** *Узрост, праўда, не такі ўжо, каб усё кулём ды кулём, з подбегам ды з падскокам, але і ў чарапок пляваць яшчэ рана* (Я.Ермаловіч). **ПАДСКАКВАЮЧЫ** *Узяў Янка залатую табакерку, шчыра падзякаваў дзядку і пайшоў, падскакваючы, дахаты* (Якімовіч), **ПАДСКÓКВАЮЧЫ** *Ходзіць, неяк падскокваючы, нібы яму балюча ступаць на тую нагу* (Дзятлаў), **УПÓДСКАК** размоўнае *У двух калянах, у мяккіх мясцінах — глыбокіх, а не цвёрдых — чуць выбітых, каціліся ўподскак добра ашыненыя калёсы* (Гартны), **УПАДСКÓК** разм. *Атрасаліся кроплі на рогі ласіныя, Узляталі вавёркі па голлі ўпадскок* (Лужанін). *І ў прысядку, і ў прытрыску, Тупне [дзед], выставіць насок, Ён з прыпеўкай беларускай Ходзіць бокам і ўпадскок* (Дзеружынскі), **УПÓДСКАКІ** разм. *Пераезду ў Альбуць мы, дзеці, былі рады і хадзілі ўподскакі* (Колас), **СКÓКАМ** разм. *Пайду лепш да места скокам* (Цётка). *Пасля размовы са сваім земляком Яўхім кінуўся скокам з шастом да вады* (Ракітны), **СКАЧКÁМІ** *Потым, збіраючы апошнія сілы, пачаў ісці скачкамі* (Мележ). *Неймаверным намаганнем волі ён [Севярын] адарваў ногі ад зямлі і скачкамі кінуўся да сходкаў* (Караткевіч).

**ПÓДСЦІЛ** (тое, што падаслана, падкладзена пад што-н.) *Бетон загружалі на дашчаны подсціл* (Хадкевіч), **ПÓДСЦІЛКА** *Пыркі з-пад кола паляцелі на калена і на подсцілку* (Арочка), **ПАДСЦÍЛКА** *На дашчанай падлозе каля сцен тут наслана салома. Праўда, гэтая падсцілка была некалі саломаю* (Якімовіч), **ПАДСЦÍЛ** *Хай кроў пальецца дзень, другі Варожым трупам на падсціл* (Купала)//(салома, сухое лісце і пад., якімі падсцілаюць жывёлу) *[Конан:] — Вазоў са сто, калі не больш, ілу. Ды торфу накапаць; паглядзець, можа дзе па кустах асака завішавала, накасіць на подсціл* (Лобан), *Ляжаў ён [жарэбчык] каля ясляў на мяккай подсцілцы і здзіўлена разглядаў навакольны свет* (Якімовіч). *Стала [Ульяна] успамінаць, ці ўсё зрабіла: дровы ўнесла, падсцілку карове кінула, вады вялікі чыгун і два вядры — хопіць на ўсё ранне, — ля грубкі поўны кораб торфу* (Гаўрылкін). *Трэба было запрагаць коней ды ехаць па салому на падсціл каровам* («Беларусь»).

**ПÓДЫХ** (лёгкі, слабы парыў ветру) *Вецер прылятаў зрэдку, слабыя былі яго подыхі, ад якіх толькі ледзь чутна шапацела зжоўклае, леташняе трысцё* (Самуйлёнак). *Пералівалася пад подыхам ветру хвалямі густая азіміна* (Шамякін), **ПÓДЗЬМУХ** *Вопратку з дрэваў віхур скінуў, подзьмухам гнуткім, як быццам смыком. Ударыў па струнах бязлітасных галінаў восені сумным разжаленым днём* (Геніюш), **ПÓДЗЬМУЎ** разм. *Віша — гэта трава, якую не паспелі скасіць у часе. Перастояўшы, яна ўспыхае і аказваецца пры кожным подзьмуве ветру, як асіна ўлетку* (Лужанін), **ПАВЁЎ** *Лёгкі, ледзь прыкметны павеў свежага ветру крануў нашы твары* (В.Вольскі) *З-пад дуба добра аглядалася сенажаць — шырокі хвалісты абсяг травы пад лёгкімі павевамі ветру, то чырванеў, то жаўцеў, то бялеў ад красак, што распукнуліся і сама цвілі* (Сачанка).

Беларускае Адраджэнне

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Феномен закрытай і прыхаванай унутранай формы

Якія ж змены назіраем мы ў беларускай мове пры яе вылучэнні ад агульнай старажытнарускай моўнай асновы і далейшай эвалюцыі яе да сучаснага стану, што, у прыватнасці, і відаць на прамежкавых звеннях яе, параўнаўча добра данесеных нашай старажытнай лексікаграфіяй і пісьмовымі крыніцамі таго часу.

Даследнікі вылучаюць наступныя прычыны змянення ўнутранай формы:

1. Страта сэнсавай сувязі паміж роднаснымі словамі *(вока* і *акно, тхор* і *дыхаць, канец* і *даканалы)*, дзе адбылося распадабненне каранёвай марфемы.

2. Змяненне значэння слова праз змены ў рэчаіснасці (дзеяслоў *страляць* разышоўся са словам *страла*, бо зараз людзі ўжо страляюць не стрэламі).

3. Выпадзенне з мовы архаізмаў (у слове *пакаленне* аснова невытворная, бо выйшла з ужытку слова *калена* ў значэнні 'нашчадкі') і інш.

Змены ва ўнутранай форме слова і звязаныя з імі зрухі ў марфалагічнай структуры слова лінгвісты апісваюць працэсамі **апрошчання, перараскладання, ускладнення, дэкарэляцыі і дыфузіі** гукавой абалонкі слова.

Найбольш часта ў эвалюцыі старабеларускай мовы сустракаюцца з'явы **апрошчання**, пры якім калісьці вытворная аснова ў працэсе гістарычнага развіцця становіцца невытворнай, слова губляе сваю здольнасць чляніцца на марфемы. Раней, напрыклад, слова *нашчадак*, калі яно па сэнсу суадносілася са словам *чадо*, чляніласяа наступным чынам: *на + съ + чад + ъкъ*. З цягам часу, калі ўнутраная форма пачала забывацца, чляненне стала больш злітным, спрасцілася. Праз падобнае спрашчэнне марфалагічнай структуры і ў выніку лепшае ўпарадкаванне яе прайшла значная частка старажытнай лексікі (*вецер, арол, забыць, прыбыць, падласы, кольца, пануры* і г.д.). Пры гэтым даволі часта назіралася з'ява няпоўнага апрошчання, калі корань і афіксы яшчэ можна выдзеліць, але сёння яны страцілі сваё былое значэнне (*вяршок, паўтара* і інш.). Асабліва распаўсюджаны ў пераходны перыяд старабеларускай лексікі працэс **перараскладання** марфемнай структуры слова, пры якім адзін або некалькі гукаў адрываюцца ад адной марфемы і далучаюцца да другой. Аснова слова дзеліцца на марфемы другога складу. Перараскладанне, як перамяшчэнне межаў паміж марфемамі, на розных этапах развіцця мовы было адной з важнейшых крыніц папаўнення лексікі перш за ўсё праз суфіксальнае (**хвойнік, ягаднік, баравік**), зрэдку прэфіксная прырашчэнне: (не)да — (не)даплата, (не)без — (не)безнадзейны, паза — пазаўчора і г.д.

У больш позні час у беларускай мове ўсталявалася з'ява **ускладнення**, працэс у нечым адваротны апрошчанню і блізкі да перараскладання, у выніку якога невытворная аснова слова пераўтвараецца ў вытворную. Часцей за ўсё такое пераўтварэнне адбываецца ў працэсе засваення слоў іншамоўнага паходжання. У сучаснай беларускай мове, напрыклад, слова грэцкага паходжання «эхідна» членіцца на «эхідн-а» па аналогіі з кароткімі прыметнікамі тыпу «сумленна», «злосна» і г.д. Нечлянімы назоўнік «бляшка», пазычаны з польскай мовы, членіцца па аналогіі з памяншальна-ласкальнымі формамі назоўнікаў тыпу «ножка», «блошка».

Таксама значнае пашырэнне ў словазмяненні старабеларускай мовы атрымала з'ява **дэкарэляцыі** (марфалагічная структура захоўваецца, а змяняюцца толькі функцыі марфем). Калі ўскладненне, пераасэнсаванне і апрошчанне закранаюць толькі гукавую абалонку слова, то дэкарэляцыя — гэта зрухі менавіта ва ўнутранай структуры. Яна можа праявіцца і ў пераптварэнні іменных невытворных асноў у дзеяслоўныя. Так, назоўнік «лавец» па ўтварэнні суадносіцца з дзеясловамі «лавіць» і ўспрымаецца як утвораны ад яго асновы пры дапамозе «-ец». У ім корань дзеяслоўны. Гістарычна слова «лавец» паходзіць ад слова «лоў». Першапачатковы корань у ім быў іменны. Гэта датычыцца і іншых груп слоў тыпу: разьба — рэзаць (гістарычная аснова «рэзь»); замаразкі — (за)марозіць (мароз), любоў — любіць (люб).

Акрамя **лаканічнага шляху развіцця**, разгледжанага намі на прыкладзе з'яў **апрошчання, перараскладання, ускладнення, дэкарэляцыі**, нацыянальная мова жывіцца і вобразным сваім пачаткам.

Сувязь тэорыі тропаў са з'явай унутранай формы слова закранае не толькі сферу штучна створаных прыёмаў, а дазваляе разглядаць яе як натуральны працэс моўнага развіцця ў цэлым. Так, А.А.Патабня тэндэнцыю да метафарызацыі ў мове непасрэдна звязвае з самымі разнастайнымі працэсамі, якія маюць месца ў сферы ўнутранай формы слова як падсвядомага параўнання прадмета з іншымі на падставе агульнай прыкметы. Паводле вучонага, гэта полісемічны, метафарычны кірунак развіцця мовы. З'ява ж метанімії, лаканізму, з іх поўнай прывязанасцю да сінтаксічнага яруса, часцей падпарадкоўваюцца словы з прыкрытай унутранай формай, паводле А.А.Патабні, Р.В.Якабсона, — аманімічны кірунак развіцця мовы.

Параўнанне ж, што засноўваецца на абодвух відах пераносу значэнняў, А.А.Патабня схільны быў разглядаць як зародкавую ступень мастацкай творчасці, ва ўяўленні даследніка, яно і ёсць мастацкі твор у мініяцюры.

Так ці інакш, погляд на нацыянальную мову з боку яе ўнутранай формы і заснаванасці на ёй эстэтычных прыёмаў дазваляе ўбачыць шмат разнастайных аспектаў у вобразнай спецыфіцы старажытнага слова.

Братэрства

# Пагоня па-над Тэмзай

**(Да 60-годдзя Веры Рыч)**

Англійскую паэтэсу, журналістку і перакладчыцу Веру Рыч на Беларусі амаль не ведаюць. А яна ж шмат зрабіла дзеля прапаганды беларушчыны ў ЮНЕСКА, у англамоўных краінах. Літаратурна-перакладчыцкі подзвіг — не пабаімося гэтага слова — варты, каб яна стала калі не нацыянальнай гераіняй, то, прынамсі, блізкім чалавекам усім беларусам, бо прапаганду іх літаратуру і культуру. Яе імя павінны ведаць усе вучні і студэнты, якія вывучаюць англійскую мову. На жаль, кніга анталогіі беларускай паэзіі на англійскай мове, якую беларуская дэлегацыя ў свой час намервалася падараваць ЮНЕСКА, падрыхтаваная Верай Рыч, невядомая ў нашай краіне. А перакладчыца паставілася да прапанаванай нялёгкай працы вельмі сур'ёзна і з душою. Заўважылі яе паэтычны густ, разуменне перакладчыцай сітуацыі таго часу на Беларусі. З мноства вершаў, прысланых з Менску, яна выбрала самыя вартасныя. Вера Рыч напісала да гэтага выдання і прадмову, у якой вобразна, сімваламі вясны сказала пра свята 25 сакавіка, пра «зіму», якая наступіла пазней.

Вера Рыч спрычынілася і да азадлення кнігі. Спачатку на супервокладцы анталогіі мастак намаляваў выяву Пагоні. Такой яна трапіла і на выставу ў Маскву. Там былі абураныя. Партыйныя ўлады напісалі ў ЮНЕСКА ды прапанавалі знішчыць кнігу, бо, вядома ж, гэты сімвал не маглі прыняць. Але анталогію ўратавалі, знікла толькі «Пагоня».



Скончылася гэта тым, што на супервокладцы вырашылі пакінуць толькі тытул: «Як вада, як вагонь». Але мастак, як згадвае спадарыня Вера, — анельскім провідам — намаляваў гэтыя словы белымі і чырвонымі літарамі.

Шлях Веры Рыч да беларушчыны быў няпросты. Яна, оксфардская студэнтка, што вывучала англа-саксонскую ды стараісландскую мовы, з намовы аднаго ўкраінца зацікавілася творчасцю Тараса Шаўчэнкі ды пераклала некалькі яго вершаў, адначасова вывучаючы ўкраінскую мову. Пазней, трапіўшы на імшу ва уніяцкую беларускую царкву, яна зацікавілася той мовай, на якой святар гаварыў казанне. А тым святаром быў айцец Сіповіч. З беларускай мовай пачаў знаёміць Веру айцец Гарошка. Пазней эмігрант спадар Аніська вучыў яе па беларускім лемантары.

Першым беларускім творам, які Вера Рыч пераклала на англійскую мову, быў верш Янкі Купалы «Брату ў чужыне». Ён пазней быў надрукаваны ў газеце «Бацькаўшчына», што выходзіла ў Нямеччыне.

Але найбольш яе захапіла «Новая зямля». Гэты твор класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа Вера Рыч цэніць надзвычай высока, параўноўваючы яго з старажытнарымскімі трагедыямі, з драмамі і трагедыямі Уільяма Шэкспіра. Без такіх твораў, як «Новая зямля», лічыць спадарыня Вера, сусветная літаратура была б значна бяднейшая. Некалькі гадоў спадарыня Вера працуе над гэтым перакладам «Новай зямлі». На жаль, клопаты пра хлеб надзённы, а зрэшты і шматлікія актуальныя падзеі, з'явы сучаснага жыцця Рэспублікі Беларусь не даюць магчымасці закончыць гэтую нялёгкую працу. Прыкладам, яна не магла не сказаць англічанам пра Курапаты, перакладала гэтае даследаванне, а таксама іншыя публіцыстычныя артыкулы Зянона Пазьняка. Спадарыня Вера і цяпер цікавіцца палітычным і літаратурным жыццём на Беларусі.

Апошнім часам беларускія паэты зацікавіліся і творчасцю Веры Рыч. Яе вершы ўзялася перакладаць Ірына Багдановіч.

Творчае пабрацімства працягваецца.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

Чытаем

# Купалава «выбуховая» спадчына

Нарэшце выйшаў першы том Поўнага збору твораў Янкі Купалы. *(Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 1. Вершы, пераклады 1904—1907. Мн., 1995).* Патрэба такога выдання з'явілася даўно. Але па савецка-камуністычных цэнзурных меркаваннях гэта лічылася катэгарычна непрымальным. Чаму?

Шмат каму з чытачоў ужо знаёмыя вершы Купалы, якія доўгі час хавалі ад народа. Напрыклад, у кнізе *Купала Я. Жыве Беларусь. Мн., 1993* ці яшчэ раней — у газеце «ЛіМ» (1988, 7 кастрычніка), у часопісе «Полымя» (№ 10, 1988) друкаваліся творы паэта, пра існаванне якіх савецкі чытач нават не здагадваўся. І цяпер, пры ўсведамленні, што распачалося поўнае выданне твораў Купалы, узнікае адчуванне таго, што адбываецца вялікае адкрыццё. Дарэчы, падзякуем даследнікам. Тут вынік іхняй доўгай карпатлівай працы.

Сама кніга мае багаты выгляд, вельмі добра ўкладзена. Рэдактар тома У.Гніламёдаў змясціў грунтоўны ўступны артыкул. У ім падаецца план усіх тамоў.

Тое, што мы ўжо маем у першым томе, — толькі пачатковы перыяд творчасці паэта. Але і тут ёсць шэдэўры. Галоўнае ж — наперадзе. І ўзнікае міжволі трывога — што як зноў «поўны» Янка Купала акажацца некаму з начальства непажаданым? То ці паспеюць выдаць усяго Купалу?

**Кніжнік.**

Творчасць нашых чытачоў

Станіслаў ХАХЛОЎ

## Перараджэнцам

Вас зрадзнілі з расійскаю мовай,
Пакланяцца прывучаны ёй,
Пэўна, дух ваш ужо нездаровы,
Што зракліся вы маці сваёй.

Ды каб іншыя нас шанавалі,
Сябе трэба самім паважаць.
Не кладзіце вы мову на шалі,
Перастаньце яе абражаць.

Вас зрадзнілі з расійскаю мовай,
А вось я з беларускай сваёй.
Хай вам сняцца Расіі дубровы,
Ну а мне Прыдняпроўе вясной.

г.Чэрыкаў.

КІНО

# Завешчана выжыць

У менскім Доме літаратара адбылася прэм'ера мастацкага фільма «На чорных лядах». Наплыў народа аказаўся вялікім. Прыйшлося рабіць яшчэ адзін сеанс для ўсіх жадаючых, што стаялі ў праходах і былі ўрэшце вымушаны пакінуць залу і пачакаць паўторнага паказу. А каму пашчасціла прысутнічаць на першым сеансе, удалося ўступіць у жывую дыскусію са стваральнікамі фільма.

Фільм пасля прагляду зала вітала стоячы. Пад воплескі на сцэну выйшаў рэжысёр і сааўтар Васіля Быкава па сцэнарыі, Валерый Панамароў. Гледачы ад яго даведаліся, што кінакарціна існуе ў адзінай копіі, да якой сам рэжысёр не мае доступу.

Стужка «На чорных лядах» (вытворчасць кінастудыі «Беларусьфільма», 1995 г.), аказваецца, прынесла рэжысёру шмат клопатаў не столькі з-за прафесійных цяжкасцей, колькі ад цэнзурных, практычна, рагатак.

Фактычна фільм забаронены на ўзроўні Міністэрства культуры. Але, як сказала адна жанчына пад час абмеркавання: «Вышэй! — ідзе наступ на беларускую гісторыю!» Апошняму пацвярджэнню сапраўды шмат. І тое, што менавіта з прычыны гэтага фільм не ўбачыць шырокае кола беларускага народа, вельмі крыўдна, бо ў ім паказаны значныя падзеі нашай нядаўняй мінуўшчыны.

Лістапад—снежань 1920. Слуцкая брыгада, якая ўступіла ў бой, каб бараніць сваю бацькаўшчыну ад наступаючых бальшавіцкіх захопнікаў, разбіта. Амаль месяц ішло змаганне. Да апошняга патрона. Апошні шмат хто пакінуў для сябе... Случакі добра разумелі, што іхняе супрацьстаянне хутчэй сімвалічнае, што мала зброі і сілы, што слаба падрыхтаваныя, што вораг пераўзыходзіць па колькасці ў дзесяткі—сотні разоў. Але случакі змагары ўсё ж ідуць у бой — «каб жыла Бацькаўшчына».

...Заставалася васьмёра, такіх розных, параненых, змучаных, абкладзеных бальшавікамі ў лесе з усіх бакоў...

Менавіта ў гэтым моманце сюжэта мастацкай стужкі рэжысёра Валерыя Панамарова «На чорных лядах» назіраецца найбольшая напружанасць. Трагізм, складанасць людскіх лёсаў, вобразы змагароў, псіхалагічныя партрэты паміраючых за ідэю, размовы паўстанцаў — усё гэта прымушае ўдумліва яшчэ раз пераацаніць сённяшняе становішча роднай Беларусі.

Героі стужкі не выклікаюць жалю, хоць адзін за другім мёртвыя звальваюцца ў пясчаны дол. Робіць гэта нашы дзяды-прадзеды свядома — каб не пакутавалі праз іх блізкія, каб даць ім магчымасць выжыць і ўзняцца на новую барацьбу за волю. Дык ці выпадае сённяшнім беларусам нават без стрэлу валіцца ўсёй нацыяй у бездань! Калі ўпадзём — невядома, хоць калі-небудзь нашы нашчадкі ці змогуць выбавацца з гэтай магілы? Зажыць па-свойму, па-беларуску.

З васьмі паўстанцаў толькі хлопчык 13—14 гадоў Валодзька выйшаў з «чорных лядаў». Яму камандзір загадаў закапаць, раўняць магілу, а самому — выжыць.

Знаку ад магілы не засталося. Але ацалеў Валодзька — сімвал маладога, новага пакалення, засталася на Случчыне і ва ўсім беларускім народзе памяць пра змагароў-паўстанцаў, якія ішлі на смерць, каб жыла Беларусь.

**Сяргей КОЗЕЛ,**
**навучэнец Менскага педагагічнага каледжа.**

## «Наш край» аднoўлены




У кастрычніку 1925 года ўбачыў свет першы нумар новага беларускага навукова-папулярнага часопіса «Наш край», створанага Цэнтральным бюро краязнаўства па даручэнні прэзідыума Інстытута беларускай культуры. У склад першай рэдакцыйнай калегіі новага выдання ўвайшлі такія вядомыя асобы, як намеснік старшыні Інбелкульта географ Аркадзь Смоліч, пісьменнік Міхайла Грамыка ды сябра Інбелкульта пісьменнік Змітрок Бядуля, які стаў першым рэдактарам часопіса. На старонках «Нашага краю» друкаваліся артыкулы вядомых навукоўцаў і краязнаўцаў — Г.Гарэцкага, В.Ластоўскага, А. і І.Цвіковічаў, М.Шчакаціхіна ды іншых, прысвечаныя гісторыі, геаграфіі, архітэктуры, тапаніміцы Беларусі.

Але ўжо ў кастрычніцкім (1930 года) нумары часопіса быў змешчаны артыкул, у якім абгрунтоўвалася неабходнасць змены аблічча выдання. 30 кастрычніка таго ж года прэзідыум Інбелкульта ў сваёй пастанове даў адмоўную ацэнку публікацыям часопіса, якія не адпавядалі духу таго часу. У лістападзе выйшаў апошні, 61-ы нумар часопіса, які далей (да 1933 года) выдаваўся пад назвай «Савецкая краіна» і з новым складам рэдкалегіі.

Але сёння «Наш край» аднoўлены. Яго чарговы, 62-гі нумар увайшоў у першы сшытак новага часопіса «Падарожнік».

ПАДАРОЖНІК

«Аднаўленне выдання часопіса «Наш край» — даніна памяці Генадзя Каханоўскага, Міхася Ткачова, якія марылі і прыкладалі шмат намаганняў да стварэння Беларускага краязнаўчага таварыства і яго часопіса», — гаворыцца ў рэдакцыйным звароце да чытачоў, для якіх аднаўленне праз 66 гадоў выдання стане яшчэ адной крыніцай звестак пра свой край і свет.

**У.П.**

# Беларусам застаецца спадзявацца на свае сілы

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава «Беларуская кніга-95». Гэта штогадовая выстава як бы падводзіць вынікі работы дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў краіны за год.



У 1995 г. выдадзена 3205 кніг агульным накладам 63 млн. асобнікаў. З іх дзяржаўнымі выдавецтвамі — 654 кнігі накладам 19,6 млн. асобнікаў, міністэрствамі і ведамствамі — 1092 кнігі накладам 885 тыс. асобнікаў, недзяржаўнымі — 1459 кніг накладам 42,4 млн. асобнікаў, па-беларуску выдадзена 661 кніга агульным накладам 12,5 млн.асобнікаў. Як бачым, статыстыка зусім не на карысць роднай мовы. У гэтым няцяжка было пераканацца, агледзеўшы стэнды з прадукцыяй выдавецтваў. Прыкладна 95 адсоткаў кніг на беларускай мове выпушчана дзяржаўнымі выдавецтвамі, недзяржаўныя — выставілі амаль цалкам расійскамоўную прадукцыю. Зразумела, рынак дыктуе свае ўмовы, і ўжо шмат гаворана на тэму прыстасавання беларускамоўнай кнігі да патрэб і густаў масавага чытача. Але прыемна тое, што ўжо зараз некаторыя выдавецкія фірмы павярнуліся тварам да беларускай мовы. Напрыклад, выдавецтва «Асар» выпусціла кнігу вершаў Тараса Шаўчэнкі ў перакладзе на беларускую мову, а таксама дзіцячыя творы. Фірма «Тэхналогія» вядомая сваімі выданнямі беларускіх навуковых дапаможнікаў і слоўнікаў. Трэба адзначыць, што вельмі мала стала выходзіць навуковых кніг, гэта звязана безумоўна з цяжкім станам фундаментальнай навукі ў нашай краіне, але і дзяржава не спрыяе іх з'яўленню.

У выдавецтве «Вышэйшая школа» падрыхтоўку і выданне беларускамоўных дапаможнікаў па фізіцы, хіміі і матэматыцы цягнуць на сабе некалькі руплівцаў, якія некалькі месяцаў запар не атрымліваюць грошай за гэтую работу.

За тое колькі гучных слоў пры адкрыцці выставы было сказана дзяржаўнымі чыноўнікамі. І што дзяржава робіць шмат у выдавецкай галіне, і што многа выдаецца кніг, але ніхто не звярнуў увагі на тое, што беларуская кніга знаходзіцца зусім не ў роўных умовах з расійскай. Дырэктар выдавецтва «Юнацтва» В.Лукша ўвогуле патлумачыў падзенне накладаў выдаваемых кніг «белавежскай змовай». Вядома, кожны шукае апраўданне сваёй дзейнасці альбо бяздзейнасці. Відавочна, што беларусам спадзявацца ў цяперашніх умовах на дзяржаву не варта — у яе іншыя прыярытэты. Застаецца разлічваць на свае сілы, ствараць свае прыватныя выдавецтвы і выдаваць добрыя кнігі, каб паліцы наступных кніжных выстаў больш радавалі вока беларускіх патрыётаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

На фотаздымку **Аркадзя Нікалаева** — адкрыццё выставы.

## І смех і грэх

### Пачутае «У Лявона»

**Каб дагадзіць**

Бывалец шынка вітае свайго сябра:

— Што здарылася? Я так даўно не бачыў цябе ў шынку?

— Каб дагадзіць жонцы, я кінуў быў курыць і піць, але, як бачыш, вымушаны вярнуцца.

— Чым жа яна не задаволеная?

— Не было да чаго прычапіцца.

**Ізноў набіты**

Да століка прысаджваецца мужчына, на лысіне якога відаць свежы шнар. Адзін з сяброў і кажа:

— Жонка біла цябе, бо не ўмеў мыць посуд, але ты ж казаў, што купіў ёй кухонны камбайн.

— Ён б'е яе токам.

**Сытыя**

Да закаханых падыходзіць афіцыянт:

— Што закажаце?

— Мяне мілы пацалуе — я тры тыдні сыта, — жартам адказвае дзяўчына.

— А чым запіваць будзеце?

**Пашэнціла**

Маладзіца распавядае:

— Я ўжо дзесяць гадоў як удава... Мой муж загінуў неўзабаве пасля шлюбу.

— Пашэнціла чалавеку, — уздыхае Лёля, — не мучыўся дзесяць гадоў.

**Не дзівіся**

Госця шынка, вядомая артыстка выступае перад бывальцамі:

— За свае сорак гадоў, што я на сцэне, мне давялося ўвасабляць розных гераіняў,,,

— Гм, сорак гадоў, — дзівіцца дзядок, — пасля вайны, вярнуўшыся ў Менск, я хадзіў на спектаклі з яе ўдзелам.

— Не дзівіся, — падказвае яму прыяцель, — яна нарадзілася на сцэне.

**Суцешыла**

Лёля спачувальна дзецюку, які прапанаваў ёй выйсці за яго замуж:

— На вялікі жаль, я мушу вам адмовіць...

— Вы баіцеся маёй зарплаты?

— Каго сёння могуць напалохаць тыя мізэрныя грошы маладога навукоўца?.. Але вы ж будзеце ўсё выбіраць з такім вышуканым густам, як выбралі мяне.

**Дзеля надзейнасці**

Госць шынка, які ўпершыню прыйшоў туды, пытаецца ў адміністратара:

— А краты ў вас дзеля чаго?

— Так надзейней...

— Няўжо хто-небудзь спрабаваў уцякаць праз вакно?

### Афарызмы

Прырода дала яду істотам паўзучым; наймацнейшыя не маюць яго.

*Адам Міцкевіч.*

Кахаць — гэта не глядзець адно на другое, а глядзець разам у адным кірунку.

*Антуан дэ Сант-Экзюпеpы.*

Што за смутная эпоха: значна цяжэй абвергнуць забабоны, чым рашчапіць атам.

*Альберт Эйнштэйн.*

Зусім не разумеем развалiны (руіны) да таго дня, калі самі становімся імі.

*Генрых Гейнэ.*

Калі табе не хочацца есці, не гань страву.

*Рабіндранат Тагор.*

Не ўсюды, дзе ёсць вада, можна ўбачыць жабаў, але там, дзе чутны жабы, мусіць быць вада.

*Вольфганг Гётэ.*

Поспех ёсць заўсёды дзіцем нахабства.

*Вальтэр.*

Кар'ера — гэта конь, які дасягае брамы неўміручасці без вершніка.

*Карл Краус.*

Нават калі шчасце трохі забудзе пра цябе, ты аднак ніколі пра яго не забывайся, памятай.

*Жак Прэво.*

Сумна, што неразумныя такія самаўпэўненыя, а людзі разважныя такія сумнеўныя.

*Бертран Расел.*

Людзі нат не думаюць, як сабою псуюць краявіды.

*Фёдар Дастаеўскі.*

У старых грахоў доўгія цені.

*Агата Крысці.*

Нават калі няма ўжо нічога, чым можна кіраваць, адміністратар не адыходзіць.

*Бяртольд Брэхт.*

Найлепшай вагой дзеля вымярэння сяброўства з'яўляецца няшчасце.

*Плутарх.*

### Пароды

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Пад знакам астральнасці

*Плынь нашых дзён — як плынь вады.*
*Цячэ рака. Бягуць гады.*
.................................................
*За днямі дні, гады, стагоддзі,*
*а сонейка штодня ўзыходзіць.*

**Васіль Сахарчук.**

Што ні кажыце, пры натхненні
трывожна томіць адхіленне
ад выпадковасці асноў,
ад зручных спраў, ад чуйных слоў.

У жыцці здараюцца прыгоды,
бо месік свеціць не заўсёды:
яго адольвае ціхмень.
А сонца свеціць кожны дзень.

За чорнай пространню узмежжа
звісаюць звыклыя мярэжы.
А побач з імі заадно
павісла зорнае радно.

Пакуль астральны знак шарэе,
кунежу ямбы і харэі.
І ёсць спадзеў на умалот,
ды ён мялее з года ў год.

## Захаваем свет чыстым

У 1992 годзе камісіяй Еўрапейскага саюза для спраў навакольнага асяроддзя была прынятая Пятая праграма экалагічных захадаў Еўрапейскай супольнасці, скіраваная на прафілактыку акцый, шкодных навакольнаму асяроддзю. У межах гэтай праграмы прадугледжана фінансавая падтрымка еўрапейскіх (у тым ліку і беларускіх) арганізацый і групаў, занятых экалагічнымі праблемамі.

Гранты размяркоўваюцца штогод у лютым, таму зацікаўленым асобам і арганізацыям трэба падаваць заяўку загадзя, не пазней снежня г.г. Падаваць заяўкі могуць толькі некамерцыйныя аб'яднанні. Не прымаюцца заяўкі ад арганізацый выключна нацыянальнага характару, напрыклад, партый «зялёных».

Заяўкі трэба скіроўваць у Камісію еўрапейскага супольніцтва, Генеральную дырэкцыю экалогіі, ядзернай бяспекі і грамадзянскай абароны на адрас:

Comission of the European Communities
Directorate General for the Environment,
Nuclear Safety and Civil Protection,
Unit XLC 4
Beaulier 5-00/183
200, Rue De La Loi
1049 Brussels
Belgium
Tel. (10322) 299-32-05

Спадзяёмся, што гэтая інфармацыя прыцягне ўвагу і будзе карысной нашым чытачам — сябрам экалагічных арганізацый.

**21—22 лістапада 1996 г. Беларускі інстытут праблем культуры (БелІПК) праводзіць навуковую канферэнцыю «Культура. Чалавек. Эканоміка». Плануецца абмеркаванне шырокага кола пытанняў функцыянавання культуры ў сучасных сацыяльна-эканамічных умовах.**

**Мяркуецца выданне тэзісаў выступленняў. Тэзісы (2 старонкі праз 1,5 інтэрвала) прымаюцца да 1 кастрычніка 1996 г. па адрасе: 220086, Менск, Каліноўскага, 12, БелІПК, навуковы аддзел. Кантактны тэлефон: 65-27-95.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 448

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3182 паасобнікі.
Падпісана ў друк 22.04.1996 г.
у 15 гадзін.